№ 83. 28 лістапада 1916 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

# ГОМАН

БЕЛАРУСКАЯ ВІЛЕНСКАЯ ЧАСОПІСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ У ТЫДЗЕНЬ: У АЎТОРКІ І ПЯТНІЦЫ.

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак: на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

## Пагібель арміі пад Орсовай.

### 27 лістапада.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: У ваколіцах Соммы — толькі слабы агонь. Без артылерыйскай падгатоўкі французы ў вечары прабавалі ўварвацца ў палудзенную часць лесу С. П'ер-Васт. Кулемётны агонь з акопоў і шыбка развінуўшыйся агонь артылерыі адкінуў іх назад.

*Фронт нямецкаго Насьледкіка*: На палудзенным усходзі ад С. Мэль французскі наскок на нашу пазыцію не ўдаўся.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт Леопольда Баварскаго*: Нічога важнаго.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа*: У Карпатах дружыны расейскіх разведчыкоў у ваколіцах Людовай і некольні батальёноў на поўначы ад даліны Нэгрісора адбіты.

Наабапол Альту наступаўшые ад поўначы сілы адкінулі ворагоў за Топологу. На ўсходзі ад Тігвэні прарвана лінія ворагоў, узяты ў палон 10 афіцэроў і 400 салдатоў і здабыты 7 кулемётоў. На адрэзку Вэдэа заняты ваколіцы наабапол Александрыі і самы гэты горад. Ад Турну-Сэвэрына нашае войско адціснуло астаткі румынскай арміі на ралудзенны ўсход. Там другіе сілы адрэзалі ім дарогу. Разгромленые ворагі дагэтуль утрацілі, апрыч страт забітымі, 28 афіцэроў і 1200 салдатоў палоннымі, 3 гарматы, 27 поўных гарматніх перадкоў і 800 нагружэных падвод.

У Дунайскіх портах між Орсовай і Рушчуком мы захапілі 6 параходоў і 80 барж, найбольш с цэнным грузам.

**Усходні тэатр:**

*Фронт Макензэна*: У Добруджы адбіты некольні расейскіх конных і пешых атак.

Дунайская армія, разбіваючы адпор румыноў, ідзе ўпярод.

*Македонскі фронт*: Між возерам Прэспа і Чэрнай—вострая артылерыйская бітва. Сільные штурмы проці вяршын на поўначы ад Паралова зломлены адпорам нямецкіх батальёноў егроў. На ўсходзі ад Бардару англічане востра абстрэлівалі нямецкіе пазыціі. Наступленьне, каторае пасьля гэтаго пачалося, адбіто. На Струме—стычкі дружын разведчыкоў.

### Ешчэ адна „вайна“.

ЛОНДОН. «Exchange Telegr. Comp.» даносіць, што **правіцельство Вэнізэлоса аб'явіло Боўгарыі вайну.**

АФІНЫ (Рэўтэр). С прычыны абяўленьня вайны Боўгарыі тымчасовым правіцельствам, Грэція запраўды знаходзіцца ў вайне з Боўгарыей, бо саюзьнікі прызнаюць тымчасовае правіцельство ў Салоніках за праўдзівае правіцельство Грэціі.

**Тымчасовы урад аб'явіў вайну і Намеччыне** затое, што яна затапіла караблі, на каторых ехало войско нацыоналістоў.

**Увага.** Вэнізэлос—гэта не Грэція, і «аб'яўленьне вайны» ім—гэта толькі неудачны фарс.

БЭРН. (В.Т.Б.). «Corr. della Serra» выказывае думку, што Вэнізэлос аб'явіў вайну баючися, што яго войскі ў бітвах з немцамі і боўгарамі могуць лічыць за аружные банды.

БЭРЛІН. С прычыны «аб'яўленьня вайны» Вэнізэлосам «Voss. Ztg.» пішэ:

Тэорэтычнай нэўтральнасьці афінскаго правіцельства пярэчыць яе практычнае бязсільле перашкодзіць вайне між старроннікамі Вэнізэлоса і Боўгарыей. З гэтаго факту для Боўгарыі і яе саюзьнікоў выплываюць,—ня гледзячы на пашану нэўтральнасьці Грэціі, —ваенные пасьледзтвы, адпаведные ад ходу выпадкоў.

### Палажэньне ў Румыніі.

ЦУРЫХ. «Нов. Вр.» даносіць з Букарэшту, што **румынскі фронт адсунут назад на лінію Александрыя—Відра—Смірна.** Расейская глаўная кватэра пастанавіла паслаць у Румынію на падмогу новые значные сілы. Як кажуць, кароль Фэрдынанд сам звярнуўся да цара з гэтай просьбай.

«Zurich Ztg.» пішэ, што румынскіе ўцекачы, навадняўшые у апошнім часі палудзенные гарады Расеі, пачынаюць цяпер паказвацца ў Маскве і Пецярбурзі. Асабліва вялікая група іх знаходзіцца ў Маскве, адкуль ей прыдзецца выехаць с прычыны недахваткі прадуктоў.

---

### Міністэрство міра?

Змена міністра-прэзыдэнта заўсёды суліць змену гасударственай палітыкі: з асобай глаўнаго кіраўніка дзержаўнаго жыцьця злучаецца палітычная праграма. З гэтай прычыны ўсе вочы з вялікай цікавасьцю звертаюцца да Расеі, дзе на замену міністра-прэзыдэнта Штырмэра, яркаго рэакцыонера, назначэн міністэр дарог, Трэпов.

Шукаючы прычыны змены прэмер-міністра, думка задзержываецца перш за ўсё на пытаньні: чы новы кіраўнік палітыкі Расеі сваімі палітычнымі паглядамі шмат розніцца ад Штырмэра? І на гэтае пытаньне можна даць бязспорны атказ: Трэпов—такіж рэакцыонер, як і Штырмэр; заменіўшы б. міністра дарог, Рухлова, каторы быў уславіўся сваім чорнасоценствам і «чысткай інородцоў» на чыгунках, Трэпов вёў далей палітыку свайго прадместніка, толькі вёў яе неяк бледна, не выяўляючы асаблівай заўзятасьці. Дык замена Штырмэра Трэповым ня суліць Расеі змены палітычнаго курсу,—тым болей, што дзеля гэтаго цяпер німа асаблівай патрэбы: надзеі лібэралоў збанкрутавалі, а становішчэ чорнасоценцоў, як нідаўна заяўляло «Русск. Знамя», за час вайны узмацавалося, як ніколі.

Дзе-ж прычына змены міністра-прэзыдэнта?

Аддзеленые ад Расеі баевым фронтам, мы ня можэм зусім пэўна судзіць аб унутрэным палажэньні ў Расейскай дзержаве: там-жэ так часта кірунак палітыкі залежаў ад зусім прыпадковых прычын, ад розных Распутіных і іншых «прахадзімцоў». Але, стаўляючы зусім бязцьветнаго Трэпова побоч Штырмэра, чэлавека з яркім палітычным сьветаглядам, мімаволі родзіцца думка: ці ня гэтая бязцьветнасць Трэпова і аткрыла яму дарогу да найвышэйшаго гасударственаго становішча?

Німа слоў: Расея цяпер перэжывае дужа важны момэнт. Вайна шмат бліжэй да свайго канца, чым да пачатку, і ўжо трэба думаць аб міры. У такі сур'ёзны момэнт людзі з яркім імем не заўсёды выгодны: сапраўдные кіраўнікі палітыкі часта любяць у падобных здарэньнях хавацца ззаду — за завесай, ды с свайго укрыцьця „рабіць палітыку“, засланяючыся паслушнымі ім бязцьветнымі людзьмі, як «фірмай». І хто ведае, ці Трэпов ня будзэ служыць такой «фірмай», ці міністэрству яго ня суджэно быць *міністэрствам міра?*

У газэтах мы чыталі, што ў Амстэрдамі так ждуць скораго міра, што там двое прэдстаўнікоў купецка-прамысловаго стану пайшлі ў заклад на 600.000 крон — аб тое, калі будзе канец вайны. Адзін казаў, што вайна скончыцца перад канцом 1916 году, другі — што шмат пазьней. І хаця мы сябе ня цешым надзеяй на гэткі скоры мір, усёж-такі думаем, што час замірэньня шыбка наближаецца. Апошніе выпадкі ў міжнароднай палітыцэ, думка Расеі аб'явіць аннэксію Галіцкіх зямель, занятых расейскім войскам, і т. п., — усё гэта паказвае, што ваюючые староны пачынаюць сур'ёзна думаць аб тым, як павінна выглядаць карта Эўропы пасьля замірэньня. І калі станем на тым, што граніцы Расеі пасьля вайны значна пераменяцца, дык лёгка зразумець, што выдатные расейскіе палітыкі ня хочуць браць на сябе атказу за гэта прад сваім народам і дзеля гэтаго высоўваюць на першы плян мала вядомаго, нічым ня выявіўшаго сябе Трэпова.

---

### Прычына неспакойства.

Мы ўжо пісалі ў тым нумэры, як кракоўская газэта «Nowa Reforma» асьведамляе польскае грамадзянство аб палажэньні ў Вільні. Цяпер у украінскай часопісі для ваенна-палонных «Вільнэ Слово» чытаем гэткую выметку с тэй жэ газэты—с стацьці польскаго журналіста Аўгустыньскаго:

«Беларуская мова—гэта дзіўная мешаніна маскоўскай, польскай, літоўскай і латышскай мовы; аднак, чытаючы, для паляка яна можэ быць зразумела».

Украінская часопісь ад сябе дадае да гэтаго: «І гэткіе «мудрасьці» друкуе газэта 20-го сталецьця!» Мы з гэтай увагай ня можэм не згадзіцца: са слоў п. Аўгустыньскаго ясна відаць, што гэты «філёлёг» ня толькі ня чуў ані беларускай, ані літоўскай, ані латышскай мовы, але і не дзержаў у руках ніводнай навуковай працы аб беларускай мове, с каторай мог-бы даведацца, што гэта—зусім самабытная галіна між так-званымі «рускімі» мовамі.

Само сабой, трэба быць лішне ўжо «сьмелым», каб публічна га-

варыць аб справе, аб каторай чэлавек нічога ня ведае. Але с таго, што нават такіе ігноранты знаходзяць для сваіх пісанін мейсцо ў польскіх газэтах, відаць, якой жывой у польскім грамадзянстве становіцца беларуская справа. Мінуў ужо той час, калі аб ей можна было маўчаць, ды «асьведамляць» нямецкіе уласьці, бытцым ніякіх беларусоў німа: беларусы сваей культурнай работай паказалі, што яны ёсць, жывуць і хочуць жыць, як асобная, самабытная нація. Вось, цяпер і прыходзіцца шукаць розных прычэпак і пускаць у ход бытцым-то «навуковые» доказы, што беларуская мова—гэта не мова, а нейкая мешаніна, што з гэтай прычыны работа беларуская ніякаго грунту мець ня можэ...

Калі глянем назад—на першые часы пасьля прыходу немцоў, дык папраўдзі дзіўна становіцца: скуль беларусы ўзялі сілы дзеля тэй культурнай работы, якая перад нашымі вачыма развіваецца? То-ж з Вільні і другіх нашых мест, з мястэчак і вёсак маскалі павывозілі чуць-што ня ўсіх беларускіх інтэлігентоў,—а каго ня вывязьлі гвалтам, той сам быў прымушэн выехаць, жывучы адно с таго, што зарабляў на казённай службе—як вучыцель, чыноўнік і п. т. У роднай староцы, здавалося, не было нікога, хто мог бы працаваць дзеля беларускай справы,—і «прыяцелі» нашы ўжо паціралі рукі з радасьці, што ім лёгка дастанецца панаваньне над беларусамі. Тым часам досі было, каб жменя беларусоў у Вільні пачала кратацца, закладаючы тут школы, коопэратыву, клюб і іншые культурные установы,—і вось на замену выехаўшых беларускіх работнікоў пачалі аб'яўляцца нет ведама скуль новые сілы. Наша культурная работа йдзе ўсё ўпярод, і кожын дзень прыносіць нам радасные весткі то аб новай школі, то аб вучыцельскай сэмінарыі, то аб народным тэатры і інш. А гэта—найлепшы доказ таго, што грунт для гэтай работы ёсць — і той грунт багаты.

Скуль-жэ бяруцца тые новые сілы—новые людзі?

Ешчэ ўчора аб іх ніхто ня чуў і ня ведаў, бо яны дзеля куска хлеба рабілі для другіх. Ешчэ ўчора яны дзеля заробку працавалі ў школах і культурных установах чужой націі, памагаючы дэнацыоналізаціі нашаго народу. Але цяпер збудзілося ў іх нацыональнае сумленьне,—і ў такі важны момэнт, калі важыцца пытаньне: быць, ці ня быць беларусам самабытным народам?—яны, скінуўшы сверхны налёт, пасьпешаюць да працы для нашаго народу, каторы іх узгадаваў.

Ня ўсе сыны нашаго народу ступілі ўжо на гэткую справядлівую дарогу, а толькі тые, ў каго больш чулае сумленьне. Але першы крок ужо зроблен і дарога паказана.

*І. Мелешка.*

# У Вільні і ваколіцах.

— —

✕ **Лётэрыя на карысць беларускіх дзяцей.** Як мы ўжо пісалі, на беларускім вечары, каторы адбудзецца 10 сьнежня ў салі Работніцкаго Клюбу (Вароньня 5), будзе устроена дабрачынная лётэрыя, даход с каторай, як і з усяго вечэра, пойдзе на утрыманьне беларускіх школ-ахронак у Вільні. Камітэт Беларускаго Т-ва пом. пац. ад вайны, каторы гэта ладзіць, звертаецца да віленскаго грамадзянства с просьбай даваць ахвяры-фанты на лётэрыю. Збор фантоў ужо пачаўся. Зборшчыкі і зборшчыцы павінны паказваць заверэньня, выданые камітэтам.

Ахвяры можна аддаваць і ў самым камітэці — Віленская 33 (ў Бібліотэцы).

✕ **Грамадзянскі угодлівы суд.** У сераду, 22 лістапада, адбылося чароднае заседаньне угодліваго суда між кватэрантамі і гаспадарамі дамоў. На чародзі было 7 спраў. Суд, сабраўшыся ў поўным складзе пад маршалкоўствам супэрарбітра, раздзяліўся на дзьве часьці і заседаў у двох комплектах. З'явіліся на суд усе вызваные — як кватэранты, так і гаспадары дамоў. У аднэй справе староны заявілі, што яны ўжо самі дайшлі згоды. Ў іншых справах суд знайшоў способы пагадзіць староны, хаця адзін з гаспадароў меў ужо спаўніцельны прыгавор суда кароннаго.

Пастаяннае мейсцо угодліваго суда і яго сэкрэтар'ят, каторы прынімае заявы ад старон і выдае копіі рэзолюцій, памешчаецца пры Віленскай вуліцы дом № 20, кв. 3.

✕ **Пасрэдніцтво ў найме кватэр.** Сэкрэтар'ят Саюза Кватэрантоў (Віленская 20, кв. 3) прынімае на сябе безплатнае пасрэдніцтво ў найме кватэр і звертаецца да гаспадароў дамоў, каторые маюць вольные кватэры, с просьбай прысылаць у сэкрэтар'ят ведамасьці аб іх.

✕ **Цэнтральны саюз жыдоўскіх** коопэратыў пастанавіў не прынімаць новых членоў, пакуль не адбудзецца рэорганізація коопэратыў.

✕ **У акружным судзе.** Цэлы дзень заседаў акружны суд, разбіраючы справу сына селяніна Яна Эрбатовіча з Неманюн (Мэрэч-Оліцкаго пав.). Яго вінавацілі ў тым, што ў начы з 24 на 25 чэрвеня ён забіў млынара Рыновіча і цяжка параніў гаспадыню млынара і сына яе. Апрыч таго Эрбатовіча вінавацілі ў пераховываньні стрэльбы і патронаў і ў недазволеным палеваньні. У справі аб убіўстве Эрбатовіча апраўдалі, бо цьвёрдых доказоў проці яго не было. За пераховываньне аружжа і бракон'ерство ён засуджэн на 5 гадоў 3 мес. у папраўчую турму.

✕ **У міравым судзе.** Работнік Вацлаў Васілеўскі 13 кастрычніка пайшоў на расейскі ваенны магільнік па Антоколі, вырваў 6 крыжоў, пашчэпаў на дровы і разам з жонкай сваей і прачкай Барaноўскай панёс іх да хаты. За гэты паступак Васілеўскаго засудзілі на 3 месяцы ў вастрог, а абедзьве кабеты — на 30 марак штрафу кожную.

✕ **Нэўтральные журналісты.** У сваей падарожы па Беларусі 24 і 25 лістапада нэўтральные журналісты былі ў сталіцы нашаго Краю. З вагзалу яны паехалі проста на выстаўку работных дамоў і, між іншым, куплялі розные вырабы ў Беларускім аддзелі. Пасьля агледалі іншые выдатные мейсцы і установы ў нашым горадзі, у тым ліку пажарніцкую дружыну, начальнік каторай, Д. Семашко, падняў пробную трывогу. У суботу паабедзі журналісты выехалі у Гродню.

✕ **Недастача малака.** Жальбы с прычыны недастачы малака ў горадзі растуць. Вінаватых у гэтым прадаўцоў будуць караць.

✕ **Прышчэпка осны.** Жыхары дамоў №№ 1—65 пры Кальварыйскай вуліцы павінны ўраз жэ прышчапіць сабе осну.

✕ **Адведываць публічные бальніцы** можна ў сераду і суботу ад 11 да 12 гадз.

✕ **Ліцытація ў ломбардзі.** У ліцытацыйнай салі, Троцкая 14, адбудзецца 11, 12, 13, 14 і 15 сьнежня ад 10 да 2 гадзіны публічная прадажа заложэных у ломбардзі рэчэй, каторым мінуў тэрмін і за каторые працэнты не былі плачэны ад 31 ліпня 1915 году.

✕ **Курс рубля:** офіцыальны — 1 м. 90 фэн. за рубель; у банках пры прадажы — 2 м. 5 ф., пры куплі—2 м. 9 ф.

Пазычковая каса бярэ 6%.

# З усяго Краю.

**Мэтэоролёгічная станція.**

ЭЙШЫШКІ. 10 лістапада каралеўска-прускі мэтэоролёгічны інстытут устроіў тут невялікую обсэрваторыю дзеля нагляду за пагодай.

**Кара сьмерці.**

ОЛЬШЭВО. Сын селяніна, Констанцін Мазалеўскі, засуджэны гродзенскім акружным судом за убіўство на сьмерць, павешэн у пятніцу паабедзі.

**Канакрадзтво.**

СІДОМЛЯ. У начы на 22 лістапада у селяніна К. укралі каня і чорную кабылу са стайні, зламаўшы замок.

**Крадзежы лесу.**

СУВАЛКІ. Ад 1 да 23 лістапада ў Сувальскім павеці за кражу лесу засуджэны 25 душ.

# ВЕСТКІ З РАСЕІ.

— —

**Адстаўка Штырмэра.**

ПЕЦЯРБУРГ. (П.Т.А.). Статс-сэкрэтар і міністэр дарог Трэпов назначэн міністрам-прэзыдэнтам. Б. міністэр-прэзыдэнт Штырмэр назначэн обэр-камэргэрам і членам дзержаўнай рады.

**Правы Трэпова.**

ЛОНДОН. „Daily Telegr.“ даносіць с Пецярбурга, што Трэпову дадзены незвычайна шырокіе правы, і даўнейшае палажэньне яго, як першаго між роўнымі, змянілося на сапраўднае палажэньне прэм'ер-міністра.

# П'яука Біля Купэра.

— Прыпамінаю, што за майго бацькі жыў у нашым суседзтві стары чэлавек, катораго звалі Дан Купэр; у яго быў найпраўдзівейшы рэўматызм, які толькі можна сабе прыдумаць. Змену пагоды ён пазнаваў наперад на тры дні, і калі хто ў ваколіцы меў якую пільнейшую палявую работу, захадзіў да старога Купэра і, маўляў знехаця, пытаў, як там дарагое здаровейка.

Дан сядзеў, зазвычай, пры стале, маўчаў момэнт пасьля такога пытаньня, прыпамінаючы сабе ўчорашніе, або пазаўчорашніе азнакі сваей хваробы, а пасьля адказываў таксама маўляў знехаця:

— Пазаўчора шчыпала мне крыху левую лапатку.

— Ну, і што с таго мяркуеце?

— Будземо мeці дождж, калі вецер не пераменіцца.

— А як думаеце, вецер пераменіцца, ці не?

Дан шчыпаў сваю нагу і адказываў:

— З гэтай нагой я не зусім пэўны. Чую толькі, што вось-вось у ей зачнецца ламата. А ў такім здарэньні будземо мець вялікі вецер с палудня-захаду.

Тады сусед пытаўся.

— А як мяркуеце, калі гэта будзе?

— Ў аўторак.

І можна было залажыцца дзесяць проці аднаго, што ў аўторак будзе сьвістаць вецер, як наняты, або пойдзе дождж.

Разумеецца, стары Дан ва ўсей ваколіцы быў вельмі паважаны. І калі што раз болей людзей начало прыхадзіць да яго за радай, ён зрабіўся крыху заносчывым і ўбіў сабе ў галаву, што ніхто іншы, апрача яго, не патрапіць так згадна сказаць наперад, калі будзе пагода, або дождж. Пэўна, што гэта была вялікая памылка: траплялося так, што рэўматызмы памыляліся і варажылі няпраўду, а тады стары Дан сердзіўся на Бога, што пасылае яму гэткіе знакі, а посьле дае іншую пагоду і псуе яму ўсе яго рахункі.

Гэта ўсё дужа злавало Біля Купэра. Біль быў сынам старога Дана і так сама прарочыў пагоду, але навуковым способам. Ён апаведаў мне аб гэтым способе аднаго вечара вось што:

— Ведаеце, я веру у п'явак. Старая п'ўка разумеецца на змені пагоды так, як ніводнае стварэньне. Я чытаў недзе аб п'ўках і прыгледаўся ім добра, гадуючы іх у сябе, і магу сказаць, што мая п'ўка разумеецца на пагодзі шмат лепей, як мой стары бацька.

Я спытаў Біля, якім способам можэ п'ўка разумецца на пагодзі і як ён дайшоў у яе таго розуму? Біль адказаў, што, вычытаўшы аб гэтым у нейкай кніжцы, ён купіў сабе п'ўку і доўга прыгледаўся да яе і цяпер можэ заўсёды злавіць на брахні свайго старога. На маё далейшае пытаньне ён паясьніў, што трымае п'ўку у шклянцы, абвязанай зверху шматком палатна. У добрую пагоду п'ўка ляжыць спакойна на дне шклянкі, звітая ў круглы клубок. У сьцюдзённую пару так сама. Калі настае дождж, або сьнег, яна выплывае на верх вады і ляжыць там, расцягнуўшыся. Перад ветрам яна швыдка плавае ў вадзе туды і сюды, а наймєнш на 24 гадзіны перад бурай яна віецца і кідаецца ў вадзе дужа неспакойна, з азнакамі перапуду.

Я сказаў, што ў гэтай п'ўкавай сыстэме бачу адну хібу, а гэта тое, што п'ўка так сама неспакойна перад даждҗом, як і перад бурай.

— Э, чаго ты захацеў,—адказаў нездаволена Біль.—Дык-жэ п'ўка не стане на задніе лапкі і не скажэ табе славамі.

— А ўсё-ткі як-жэ ты зразумееш,—запытаўся я,—ці яна паказвае на буру, ці на дождж, калі ў адным і ў другім здарэньні яна аднакова неспакойна?

— Я шчупаю яе за пульс.

І, не сказаўшы больш нічога, пайшоў сваей дарогай.

(Далей будзе).

катэрые пры гэтым паляць усё за сабой. Мы спаткаліся ўжо з нашымі сіламі, каторые перайшлі цераз Дунай.

**Балканскі тэатр:**

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На вачах Макензэна перайшла цераз Дунай армія, назначэная дзеля далейшых опэрацій у заходняй Румыніі. Мы стаім перад Александрыей. Перэпраўляючыся цераз рэку, разліўшуюся с прычыны адлігі, адзначыліся, апрыч нашых сапёроў, часьці імператарскаго моторнаго корпуса, аўстрыяцкі дунайскі флот і аўстрыяцкіе сапёрные часьці.

*Македонскі фронт:* Без выдатных прыпадкоў.

---

26. XI. **вечэрам:** На фронці Соммы, апрыч неудачнаго францускаго наступленьня на палудзенным усходзі ад Бушавэнь, нічога выдатнаго.

У Валахіі—пляновые удачы.

У Добруджы і на Македонскім фронці—удачные для нас бітвы.

---

## Аустрыяцкіе апавешчэньня.

ВЕНА 24.XI. **Усходні тэатр:** (гл. нямецк. апав.).

**Італьянскі тэатр:** Калі праясьнілася пагода, артылерыйская бітва узмацавалася нанова на некольких адрэзках, асабліва на плоскагоры Карст.

ВЕНА, 25.XI. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апавешч.).

**Італьянскі тэатр:** Сільная лятучая эскадра атакавала вагзал і склады ворагоў у Брымуляно. Усе самалёты шчасьліва вярнуліся назад.

ВЕНА 26.XI. **Усходні тэатр:** (гл. нямецкае апав.).

**Італьянскі тэатр:** На плоскагоры Карст—крапчэйшые артылерыйскіе бітвы. На граніцы Карынтіі ворагі абстрэлівалі паадзінокіе ваколіцы.

---

**Адрэзаные румыны.**

ЯССЫ. Зносіны з румынскімі сі лами на адрэзку Орсовы у апошні е дні пярэрваны. Гэтай групай войск камандуе генэрал Кульцэб.

**Пагібель найвялікшаго англіцкаго параходу.**

ЛОНДОН. (В.Т.Б.). Адміралцейство даносіць, што англіцкі параход «Брытаннік», 47.500 тонн, найвялікшы ў-ва ўсім англіцкім флоці, затануў.

**Падарожа падводнаго параходу «Deutschland»**

НЬ'Ю-ЛОНДОН (у Амэрыцэ). Падводны параход «Deutschland» выехаў адгэтуль назад у Нямеччыну.

**Разруха у Грэціі.**

АФІНЫ. (В. Т. Б.) — Рэўтэр). Францускі марскі атрад заняў вагзал Пэлёпонэскай чыгункі.

САЛОНІКІ (В.Т.Б.). Францускіе атрады пазаймалі вёскі ў нэўтральным поясе. Вернае каралю грэцкае войско адмовілося выйсьці адтуль.

АФІНЫ. (Рэўтэр). Францускі адмірал Фурнэ дамагаецца, каб Грэція выдала яму 18 батарэй палявой артылерыі, 16 горных батарэй, 40.000 вінтовак, 140 кулемётоў, 50 аўтомобілёў і значнае чысло снарадоў.

АФІНЫ. Адмірал Фурнэ ў новым ўльтіматуме дамагаецца выдачы артылерыі да 4 сьнежня, а іншых ваенных матэр'ялоў—да 15.

АФІНЫ. На расейскаго пасла кн. Демідова было зроблено пакушэньне. Поезд, у каторым ён ехаў, спусьцілі з рэльсоў і абстрэлялі аружные людзі. Пасол не пацярпеў. Кн. Демідов маніцца пасяліцца са сваімі служачымі ў Салоніках.

**Проці набору 1918 г.**

ПАРЫЖ. На апошнім заседаньні францускаго парляманту выявіўся сільны кірунак проці прызыву набора 1918 году. Не раз чутны былі крыкі: „Даволі вайны!"

**Нет асноў для міра!**

ЛОНДОН. С прычыны чутак аб міры «Times» пішэ, што цяпер німа ніякіх асноў, каб гаварыць аб міры.

МІЛАН. Дырэктар «United Presse», аб'ехаўшый блізка ўсе сталіцы ваюючых дзержаў, пераконан, што вайна скончыцца толькі цераз два гады. Ен думае, што сілы саюзьнікоў ня будуць рацыональна выкарыстаны.

---

## Спіс ваенна-палонных з нашаго краю.

**З Вільні і Віленскай губэрні.**

### Табор для ваенна-палонных Brandenburg a. H.

Гінсбург Ізраэль, Вільня.
Васіліскі Іцко, „
Саврас Міхаіл, „
Галабурда Владыслаў, „
Шыман Грыгор, „
Рудэцкі Арон, „
Суходолец Сьцепан, „
Богдановіч Іван, „
Бруковіч Констанцін, „
Жукоўскі Андрэй, „
Якімовіч Вінцэнты, „

### Табор для ваенна-палонных Frankfurt a. Oder.

Эйдукевіч Вінцэнты, Мал. Гульбіна.
Гілль Валенты, Кубатоўка (Сьвенцянскаго пав.).
Карчэўскі Адам, Засьценак.
Левіцкі Людвік, Скароўцы (Сьвенцянскаго пав.).
Ляховіч Болеслаў, Пошылі.
Ліпінскі Рафаіл, Крывосельле (Сьвенцянскаго пав.).
Нарушэвіч Язэп, Вільня.
Пошузінскі Вінцэнты, „
Рачоўскі Пётр, „
Садзевіч Вінцэнты, „
Урбановіч Міхаіл, Засьценак.

### Табор для ваенна-палонных Halbe.

Алексейчык Владыслаў, Горняты.
Андрушкевіч Іван, Седова.
Банцэвіч Міхаіл, Банцэвічы.
Баўтрэль Іван, Магіенцы.
Бегун Лявон, Польчыск.
Белеўскі Язэп, Сугайлі.
Бельскі Пётр, Ап'ятово.
Бэрдоўскі Болеслаў, Сальмотовшчызна.
Гоголінскі Казімір, Разгоры.
Біль Марцін, Торуцы.
Блашкевіч Франц, Кацяновічы.
Богдзевіч Вінцэнты, Бакшты.
Букаты Антон, Курыловічы.
Бурмскі Іван, Катрывачызна.
Буш Адольф, Новы-Двор.
Бутрымовіч Болеслаў, Аколіца Круповічы.
Бучэль Людвік, Гэйловічы.
Быльшко Станіслаў, Залесьсе.
Дзедзіц Станіслаў, Вільня.
Дэвятоўскі Антон, Кіямшы.
Діц Станіслаў, Гута.
Федоровіч Вінцэнты, Окушканцы.
Гагалюшка Казімір, Ічэкна.
Гауль Юльян, Бэнаполь.

### Табор для ваенна-палонных Lamsdorf.

Мяноўскі Станіслаў, Малые Соліначынкі (?).
Юневіч Пётр, Радванішкі.
Будзько Юры, Авечкі.
Сасноўскі Геронім, Вільня.
Сэвэрын, Антон, Немэнчын.
Пецюль Сьцепан, Ойчырково.
Дулінец Антон, Дуліно.
Шаблінскі Казімір, Вільня.
Пашкоўскі Язэп, „
Войцехоўскі Марцін, „
Ноневіч Марцін, Ново-Вілейск.
Мацеёў Вінцэнты, Леонішкі.
Сымановіч Язэп, Быстрыца.
Хілінскі Александар, Вільня.
Тульпа Міхаіл, Віленская.
Аврэйцэвіч Мікалай, Вільня.
Карпоў Александар, „
Марозоў Александар, „
Чэрнек Констанцін, Жукоўшчына.
Сьвідлер Сікант, Вільня.
Коварскі Натан, Смаргонь.
Чорны Вольф, Вільня.
Гонтовік Самуіл, Стэатіск (?).
Вайнэр Бэрко, Вільня.

### Табор для ваенна-палонных Stendal.

Лосік Аўгуст, Ботары.
Бучынскі Адольф, Бэвэйкі.
Вершыло Язэп, Жырмуны.
Ясінскі Аўгустын, Гервэяны.
Войткевіч Бэрнард, Погенда.
Куцэвіч Трацнік, Болутое.
Рамаоўскі Станіслаў, Вільня.
Сіцкель Франц, „
Мікрашэвіч Язэп, „
Шыран Мікалай, „
Забороўскі Фэлікс, „
Петкевіч Альфонс, „
Кадіс Владыслаў, „
Кудзі Міхаіл, Вільня.
Даўлінд Іван, Дакудова.
Сапожнікоў Кіпрыян, Замосоново.
Тамашэўскі Язэп, Полёмэр.
Кандрат Болеслаў, Букі.
Вызга Вільгэльм, Вільня.
Богдановіч Леонард. „
Яцэвіч Язэп, Маляты.
Лыч Гіполіт, Мышы.
Воеводзкі Броніслаў, Відынянцы
Тамашэўскі Станіслаў, Засьценак.

(Далей будзе).



Друкавана у друкарні И. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар В. Ластоўскі.